БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

15 лютага 1994 г.
Аўторак
№ 18 (13734)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*




## 5 ГАДОЎ БОЛЮ



*Пяць гадоў мінула з таго часу, як апошні салдат пакінуў Афганістан. Боль ад гэтай вайны жыве ў сэрцах маці загінуўшых, у скалечаных целах інвалідаў, у знявечаных душах тых, каму пашчасціла вярнуцца жывымі.*

*У Цэнтральным раёне Мінска чатыры воіны–афганцы — усе інваліды, былыя афіцэры — вырашылі не хадзіць з працягнутай рукой, просячы ў дзяржавы ці арганізацый, не займацца камерцыяй, а "адкрыць" сваю вытворчасць. Ініцыятарам па стварэнню вязальнай вытворчасці стаў былы камандзір дэсантна–штурмавога батальёна Вячаслаў Шаблоўскі. Здавалася б, такая ідэя павінна была знайсці падтрымку, але толькі пасля году бадзянняў па інстанцыях было зарэгістравана закрытае акцыянернае таварыства інвалідаў вайны ў Афганістане "ОМІС". Толькі пад шалёныя працэнты ўдалося атрымаць крэдыты на развіццё. Дзякуй Богу, што пайшло насустрач кіраўніцтва РКБА Мінскага раёна і выдзеліла пад цэх будынак былога комплекснага прыёмнага пункта ў вёсцы Кунцаўшчына. Цяпер тут вяжуць розныя світэры, джэмперы, паліто.*

*У будучым арганізатарам "ОМІСа" хацелася б стварыць цэнтр па навучанню інвалідаў–афганцаў, аказваць дапамогу па арганізацыі працы дома. А цяпер яны пакуль самі і вадзіцелі, і грузчыкі, і прадаўцы, а часам, як Эдуард Рудзько, вымушаны і дзяжурыць ноччу.*

**Фота Сяргея БРУШКО.**

## Кур'ер "ЧЗ"

### СТОП — ФАКТ

### Заява прэзідыума

*Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў заяву.*

У дакуменце ўказваецца на неабходнасць дасягнення ўзаемаразумення паміж палітычнымі сіламі ў Беларусі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета заяўляе аб цвёрдай рашучасці дабіцца на бягучай сесіі падтрымкі народнымі дэпутатамі прапаноўваемых мер па ўмацаванню дысцыпліны, парадку і законнасці, ажыццяўленню рэформ у сферы дзяржаўнага будаўніцтва, прыняцця новай Канстытуцыі, правядзення ў першым паўгоддзі 1994 года ўсенародных выбараў кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады, у другім паўгоддзі - выбараў у Вярхоўны Савет, у сакавіку 1995 года - выбараў у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў.

### В.Кебіч абвергнуў чуткі аб прымяненні сілы

*11 лютага на сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі Вячаслаў Кебіч абвергнуў чуткі аб тым, што кіраўніцтва рэспублікі гатова прымяніць узброеныя сілы — АМОН і падраздзяленні органаў унутраных спраў у адносінах да бастуючых.*

"Гэта правакацыя накіравана супраць урада", — лічыць Старшыня Савета Міністраў. Разам з тым, ён не адмаўляў, што меры — аж да крымінальных — могуць быць прыняты на аснове законаў Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, ён вызначыў тры магчымыя пункты напружанасці: Салігорск, Орша, Мінск.

### Аварыя ліквідавана

*Як паведамілі са штаба грамадзянскай абароны Беларусі, 9 лютага ў 23 гадзіны 55 мінут на Смаленскай АЭС быў пашкоджаны трансфарматар току і адбылося ўзгаранне масла. ЛЭП магутнасцю 700 КВТ, якая сілкуе Беларусь, была адключана.*

У 00 гадзін 30 мінут 10 лютага пажар быў ліквідаваны. Работы па аднаўленню трансфарматара закончаны. Небяспека радыеактыўнага заражэння адсутнічае.

БЕЛІНФАРМ.

### Кампенсацыя з Германіі

*200 мільёнаў нямецкіх марак збіраецца выдзеліць Германія на кампенсацыйныя выплаты былым непаўналетнім вязням фашысцкіх канцлагераў, гета і іншых месцаў зняволення ў гады другой сусветнай вайны.*

Мяркуецца, што грошы гэтыя будуць выплачвацца былым вязням на працягу трох год у адпаведных сумах: 80, 60 і 60 мільёнаў. Выдавацца дапамога будзе праз раённыя Саветы. Пры вызначэнні сумы кампенсацыі ўлічваецца час, месца знаходжання, узрост, умовы ўтрымання былых вязняў і іншыя фактары. Для гэтага неабходны дакументы, якія пацвярджаюць факт знаходжання ў фашысцкіх лагерах. Як паведамілі ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, на 1 студзеня гэтага года адпаведныя пасведчанні атрымалі ўжо 39 474 чалавекі. Спіс гэты яшчэ павялічыцца, але нязначна, а афармленне дакументаў на месцах яшчэ працягваецца.

Вядома, наўрад ці гэтыя грошы, нават і ў цвёрдай валюце, змогуць поўнасцю кампенсаваць маральныя страты ці вярнуць загубленае здароўе нашых землякоў. Але ўсё ж прыемна ўсведамляць, што і праз 50 гадоў дзеці і ўнукі былых захопнікаў адчуваюць сябе вінаватымі за сваіх бацькоў і імкнуцца шчыра дапамагчы пацярпеўшым. Хочацца толькі, каб дапамога гэтая не блукала доўга па розных кабінетах, а хутчэй дайшла да тых, каму яна прызначана.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### На карысць кнігавыдавецтва

*Днямі ў Мінску ў зале пасяджэнняў Міністэрства інфармацыі адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Асацыяцыі кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі.*

Гэта незалежная самакіруемая грамадская прафесійная арганізацыя, якая на добраахвотнай аснове аб'ядноўвае прадстаўнікоў выдавецтваў, выдавецкіх арганізацый, паліграфічных прадпрыемстваў, кнігагандлёвых арганізацый і прадпрыемстваў рэспублікі незалежна ад формы ўласнасці.

На канферэнцыі абрана праўленне асацыяцыі ў складзе 17 чалавек. На альтэрнатыўнай аснове большасцю галасоў прэзідэнтам Асацыяцыі кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі абраны Сяргей Кузьмін.

(Ул. інф.)

### Калі ўсюды скарачаюць...

*На фоне сённяшняга эканамічнага бязладдзя акцыянернае таварыства "Атлант" — як аазіс працвітання.*

Дзякуючы зладжанай, рытмічнай працы на прадпрыемстве няма патрэбы скарачаць працоўных. У мінулым годзе не было скарочана ні аднаго чалавека. Не будзе і ў гэтым. Паступова вырашаюцца праблемы з камплектуючымі. Так, нядаўна ў Баранавічах узведзены станкабудаўнічы завод з праектнай магутнасцю па выпуску 1,5 мільёна кампрэсараў у год. Тым самым адпала неабходнасць закупкі іх у Літве. Новае ж прадпрыемства дало жыхарам Баранавіч 2500 рабочых месцаў.

А ўвогуле ў гэтым годзе на "Атланце" плануецца выпусціць 740 тысяч халадзільнікаў.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Юбілей "Песняроў" у Віцебску

*Запрасіць у Віцебск на фестываль "Славянскі базар–94" усіх, хто калі–небудзь выступаў у ансамблі "Песняры", і тут адсвяткаваць яго 25–годдзе — такое рашэнне прыняла дырэкцыя фестывалю.*

У сувязі з доўгачаканым прыездам гасцей з далёкага замежжа гаспадары "Славянскага базару" рыхтуюць прыстойныя гасцінічныя нумары.

БелаПАН.

### Няма свайго, дык "захопім" чужы рынак

*Беларусы ніколі не вялі захопніцкай палітыкі, а вось беларускія рок–музыкі пакрысе пачынаюць "захопліваць" Захад.*

Крыху раней мы паведамлялі пра гастролі мінскага гурта "Уліс" у Вялікабрытаніі, аб выхадзе на англійскай фірме "RTX records" кампакт-дыска мінска-баранавіцкага ансамбля "Крама". На гэтым, аднак, не скончылася.

Адчуўшы смак камерцыйнага поспеху, фірма "RTX records" з яшчэ большым імпэтам рушыла ў Беларусь па танную і якасную духоўную сыравіну, вырабляючы з яе першакласны тавар на задавальненне брытанскай музычнай публікі.

Зусім нядаўна на паліцах лонданскіх мюзік-шопаў з'явіўся ў продажы яшчэ адзін кампакт-дыск фірмы "RTX records", які прадстаўляе рок-н-рол з Беларусі. Гэтым разам — зборны альбом, які ўключае па 3 кампазіцыі пяці розных нашых каманд: той жа "Крамы", а таксама мазырскіх гуртоў "Отражение" і "Парадокс", аршанскага калектыву "White Stream Ex" і мінскага "Тарнада" (апошні, праўда, змяніў назву на "Red Dynamite").

Зразумела, мы гэтых запісаў наўрад ці дачуемся, бо наша наваствораная фірма "Белатон-рэкордс" пакуль частуе нас выключна аб'едкамі дзесяцігадовай даўнасці з музычнага застолля Захаду гадоў 70-х і 80-х. Мо ў наступным тысячагоддзі прыгадае і беларускі рок 90-х, які Захад слухае сёння?

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Курсы валют на 14 лютага:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5780(6011) | 6000 | 3280(3411) | 3410 |
| "Бел-бізнесбанк" | 5550 | 6000 | 3100 | 3300 |
| "Прыор" | 5850 | 6000 | 3250 | 3410 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

### ЦЭНЫ

### Іронія лёсу, або "з лёгкай парай!"

*Ростам цэн на тавары і паслугі ў наш час не здзівіш нікога. Аднак іншы раз не–не, ды і задумаешся: а ці ёсць мяжа гэтаму? Вось толькі адзін прыклад. Сёння наведванне фізкультурна-аздараўленчага комплексу ў Мінску абыходзіцца ў 15 тысяч "зайцоў".*

Такім чынам, калі ў чалавека ёсць ахвота мыцца хоць бы адзін раз на тыдзень, спатрэбіцца ні многа ні мала — дзве мінімальныя зарплаты...

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Жыллё – раскоша

*У Гродна плануецца пачаць будаўніцтва 110–кватэрнага дома, пайшчыкамі ў якім могуць стаць усе жадаючыя. Пры ўмове, што на гэта ў іх хопіць грошай.*

Аднапакаёвая кватэра ў новым доме будзе каштаваць 11 тысяч даляраў, двухпакаёвая — 14, трохпакаёвая — каля 18 тысяч даляраў.

Ю.АЛЯКСЕЕЎ.

### ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Урад абяцае, што нам будзе лепш і без стачак...

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ, "ЧЗ"

Прапагандысцкая машына Савета Міністраў уключыла абароты на поўную моц. Вячаслаў Кебіч неаднаразова публічна падкрэсліваў, што павышэнне цэн на белыя батоны і цукар — гэта падкопы нейкіх недалужных чыноўнікаў, якія будуць пазбаўлены "цёплых" пасад. У заслугу дбайнага ўрада пастаўлена тое, што не адбылося павышэння кошту любімага мужчынамі напою — піва. Як заявіў аднаго разу прэм'ер-міністр, піавары вырашылі паправіць свае справы, узняўшы кошт пляшкі "Жыгулёўскага" ў два разы. І прытым, не пашкадавалі больш дзесяці мільёнаў рублёў для арганізацыі канцэрта Сафіі Ратару.

Як бачыце, жыццё змешвае ўсё ў адну кучу: эстрадных зорак, лепшыя пахмельныя сродкі, хлеб надзённы, шкодных і карыслівых чыноўнікаў. Паспрабуй тут разабрацца! Хаця разбірацца трэба.

Кошт таго ж цукру павысіцца, калі не цяпер, то крыху пазней і таннасць батона будзе дасягацца нябачнымі хіба што для бабулек шляхамі. Бо прычыны ў разладжанасці эканомікі, у неакрэсленасці шляху, ці то мы едзем наперад да рынку, ці то топчамся на месцы, аглядваючыся назад.

Пакаранне вінаватых за павышэнне кошту батонаў — гульня, разлічаная на недасведчаную публіку — ні больш ні менш.

Пасля таго, як страйкамы падалі голас аб палітычных патрабаваннях, кіруючая эліта ўсур'ёз задумалася аб неабходнасці выбараў — наш народ можна падманваць, але да пары да часу.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета, які пасля адстаўкі Станіслава Шушкевіча, стаў больш лаяльным да ўрадавых структур, абвясціў, што адным з першых пытанняў на маючай адкрыцца 22 лютага сесіі, будуць праекты Канстытуцыі, закона аб выбарах і аб прэзідэнцтве.

Характэрна, што на першы план Мечыслаў Грыб ставіць прэзідэнцтва і хутчэйшыя выбары кіраўніка дзяржавы. Чыноўнікі, якія лічаць сваім лідэрам Вячаслава Кебіча, спяшаюцца скарыстаць зручны для іх момант. Яны спадзяюцца, што паглынанне расійскай грашовай сістэмай нашага фінансава-заечага звярынца, усцешыць бедны беларускі люд, даўшы яму ладны прыбытак. Таму і звязваецца гэтая акцыя з імем прэм'ер-міністра.

Нельга не бачыць таксама, што суадносіны сіл у дэпутацкім асяроддзі пакуль што кантралююцца прасаўмінаўскай большасцю, што адаб'ецца пры прыняцці заканадаўчых актаў аб тых жа выбарах як прэзідэнта, так і Вярхоўнага Савета. У мінулы аўторак, у папярэднім аглядзе "Падзеі тыдня" мы не выключалі, што магчыма спроба абраць прэзідэнта на сесіі Вярхоўнага Савета. Паступіла першае пацвярджэнне, даволі нечакана Мечыслаў Грыб пры наведванні аграрнікаў Дзяржынскага раёна сказаў, што не выключаецца і такі варыянт, пра што паспяшаліся паведаміць маскоўскія сродкі масавай інфармацыі.

Новы Старшыня Вярхоўнага Савета ставіць сабе ў заслугу, што ўпершыню за апошнія чатыры гады Прэзідыум Вярхоўнага Савета абмеркаваў стан падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Да заканадаўцаў прыйшлі таксама Вячаслаў Кебіч са сваім намеснікам Аляксандрам Бокачам, з міністрамі сельскай гаспадаркі, хлебапрадуктаў, гандлю.

Атрымалася не дыскусія, а сутычка аргументаў. З аднаго боку старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч даказваў, што накачка сельскай гаспадаркі трыльённымі крэдытамі — гэта шлях у бездань, чарговы крок да гіперінфляцыі. З другога — ён не проста быў абвінавачаны, яго імкнуліся заплміць. Вось, маўляў, чалавек, які за прыгожымі тэорыямі не бачыць сутнасці.

Цікавай стала раскладка сіл у прэзідыуме. Ледзь не галоўным апазіцыянерам стаў старшыня Пастаяннай камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў. У адсутнасць Аляксандра Саснова, вядомага незалежнасцю думак і смеласцю, Дзмітрый Пятровіч заклікаў не парушаць Закон аб тых жа банках, памятаць, што непамерныя крэдыты — простае, але не лепшае выйсце ў стане крызісу.

Вёска ўсё ж атрымала жаданы крэдыт. Старшыні банка прадэманстравалі, што атмасфера лібералізму і самастойнасці як бы перастае існаваць.

Хочацца адзначыць, што наогул для Прэзідыума Вярхоўнага Савета разгляд аператыўных спраў гаспадарчага характару як бы чужы занятак. У дадзеным выпадку Савет Міністраў страхуецца ад магчымага правалу, звязвае сябе з заканадаўцамі адным ланцугом, пазбаўляецца ад непажаданага кантролю.

Разгледжана прэзідыумам .і такая, здавалася б, дробязная справа — усталяванне Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл. Мы ўсе прывыклі да 23 лютага, які, зразумела, атаясамліваецца з Савецкай Арміяй, якая падзелена ўжо на часткі. Што ў гэтым выпадку рабіць: пакінуць ранейшае свята ці вызначыць новую дату?

Ніл Гілевіч, як старшыня Пастаяннай камісіі, прыгадаў, што 23 лютага — дзень стварэння прафашысцкай краёвай абароны на Беларусі. І прапанаваў ад імя камісіі святкаваць Дзень абаронцаў Айчыны 3 ліпеня, звязаны з вызваленнем Бацькаўшчыны.

Перамагло стэрэатыпнае мысленне. Няхай лепш будзе так, як было. І зноў з усіх членаў прэзідыума толькі Дзмітрый Булахаў раіў добра падумаць, перш чым галасаваць. 23 лютага мае чыста ідэалагічнае адценне і для нейкай часткі людзей гэтая дата — нараджэнне бальшавіцкай міфалогіі.

Сёння мы даведаемся, чым закончыцца імкненне правесці палітычную стачку. Сёння мы даведаемся, як будзе паводзіць сябе кандыдат у прэм'ер-міністры кааліцыйнага ўрада Генадзь Карпенка.

Настрой у людзей не лепшы. Урад наш абяцае, як заўсёды, паляпшэнне, толькі становіцца відавочным, што перамены неабходныя.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С. КІРЫЕНКА, Д. ЛІТВІН, рэдактар П. СІМАНАЎ.*

### Для грамадзян "другога гатунку"

*Францыя ўводзіць выязныя візы для грамадзян з краін Блізкага Усходу і былога Савецкага Саюза.*

З 1 красавіка грамадзяне гэтых краін, якія пражываюць у Францыі, павінны адзначыцца ў спецыяльных установах для атрымання візы перад выездам з Францыі. Новаўвядзенне ўжо атрымала адмоўны рэзананс як у Францыі, так і за яе межамі.

### "Крылаты" ультыматум

*Готовыя да атак на Боснію бамбардзіроўшчыкі войск ААН.*

Яны знаходзяцца на апорным пункце недалёка ад італьянскага горада Вічэнца. Яшчэ ў 15 аэрапортах стаяць баявыя машыны, якія ў выпадку невыканання ультыматуму будуць узняты ў неба.

### "Карнік" па–сербску

*У Мюнхене паліцыя арыштавала Д.Гадзіча, серба, якога падазраюць у масавых злачынствах у былой Югаславіі, а іменна, у забойстве 1500 мусульман.*

Супраць арыштаванага выступаюць сведкі, якія цудам засталіся ў жывых пасля "карнай аперацыі".

### З Новым годам!

*У Парыжы адбылося святкаванне Новага года, арганізаванае кітайцамі, якія пражываюць у Францыі.*

Менавіта ў гэтыя дні па кітайскім календары пачынаецца год Сабакі. У Кітаі ў "сябра чалавека" дрэнная рэпутацыя. Кітайцы лічаць гэтых жывёл агрэсіўнымі і бруднымі. І ўсё ж нягледзячы на гэта, яны святкуюць Новы год з добрым настроем. У дадатак да свята ў Парыжы расцвіў міндаль.

### Адходы – дадому

*Сусветна вядомая экалагічная арганізацыя "Грынпіс" вырашыла вывезці ўсе адходы пластыку з Інданезіі.*

Адзін з яе вялікагрузных караблёў узяў на свой борт звыш тоны адходаў з пластыку, вытворцам якіх з'яўляюцца ЗША, Германія і іншыя краіны заходняй Еўропы. "Мы адвязём гэтыя адходы дадому", — заявілі ўдзельнікі акцыі. Пакуль невядома, які з еўрапейскіх портаў першы прыме гэты груз.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

